# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

Радыкальная часапіс, выходзіць 4 разы ў месяц

Цана асобнага нумару 15 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі Вільня, Вострабрамская 9.
Прыймо інтэрэсантаў ад 10 да 2 г. што-дня, апрача сьвятаў і нядзель.

ПАДПІСКА з дастаўкай да хаты: на 1 год 4 зл. 5с. за паўгоду 2 зл. 40, за 3 месяцы 1 зл. 30, за 1 месяц — 50 гр.

Год II. | Вільня, 19 чэрвэня 1932 г. | № 17 (42)

**Лекцыйная Камісія Беларускага Навуковага Таварыства**
**ладзіць**
**у нядзелю, 19-га чэрвеня, публічную лекцыю на тэму:**

## Аб спосабах зьбіраньня этнаграфічных матэрыялаў

Лекцыю прачытае грам. **М. ПЕЦЮКЕВІЧ**

**Пачатак у 5 гадз. папал. —) (— Уваход вольны і бясплатны для ўсіх.**

**Лекцыя адбудзецца ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі (ВОСТРАБРАМСКАЯ 9).**

## Нашым матурыстам.

З году ў год з беларускіх гімназіяў выходзіць жменя матурыстаў, перад якімі расчыняюцца дзьверы вышэйшых школаў.

Гэта — наша будучая інтэлігенцыя. Гэта — новая зьмена, якая павінна замяніць старых барацьбітаў за беларускую справу — сваіх духовых бацькоў і ўзгадавацаў.

Роля — нязвычайна важная, нязвычайна адказная. І дзеля гэтага тыя, хто разумее ўсё значэньне ўзгадаваньня нацыянальна сьведамае беларускае інтэлігенцыі, гэтак даражаць апошнімі ўжо — дзьвема толькі! — беларускімі гімназіямі, гэтак самаахвярна працуюць дзеля захаваньня іх.

Ці разумеюць гэту ролю самі матурысты? Ці гімназія патрапіла іх так узгадаваць, каб яны — за пакладзеную для іх працу — здолелі заплаціць сваей Бацькаўшчыне ахвярнай працай дзеля яе?

У трудных варунках працуюць беларускія гімназіі. Апрача варожых удараў звонку, у іх вядзецца ўсьцяж падрыўная работа знутра — рукамі пэўных беларускіх-жа дзеячоў, якія — у тупой заўзятасьці на сваіх палітычных праціўнікаў — гатовы спаліць увесь дом, каб зьнішчыць... адну мыш! І вось гэтыя асаблівыя „дзеячы", крывадушна прыкрыўшыся імем Вялікага Вучыцеля—Хрыста, ілжой і ашуканствам уліваюць у душы моладзі яд недаверыя і ненавісьці да кожнага, хто не згаджаецца моўчкі патакаць немаральным, нячэсным спосабам паступаньня гэных „дзеячоў". Гэтыя „дзеячы", публічна абвяшчаючы словы Любві і Праўды, паціху нашоптываюць моладзі словы ненавісьці і ілжы, каб рассварыць і разьбіць адзіную беларускую сям'ю — беларускае сьведамае грамадзянства. І тыя нашыя наступнікі, ад якіх мы спадзяваліся *еднасьці* і *моцы*, назаўтрае-ж пасьля выхаду з муроў сярэдняе школы становяцца сабе ўзаемна *ворагамі* і гатовы — замест працы для Бацькаўшчыны — *разьбіваць сабе галовы* і праліваць кроў беларускую...

Усім ведамы імёны гэных нацыянальных шкоднікаў, якіх мы ўжо клікалі на ўсенародны суд. Але мы змушаны ўсьцяж аб іх напамінаць, бо-ж вынікі іх агіднае „працы" сярод школьнае моладзі выявіліся сёлета навет яшчэ раней, чым матурысты апранулі студэнцкія шапкі. Сёлета матурысты Віленскае Беларускае Гімназіі нарушылі адвечную традыцыю: тыя з іх, якія былі пад уплывам хадэцыі, адмовіліся навет ад супольнага разьвітаньня з сваімі калегамі і гімназіяй, якая іх узгадавала.

Праўда, лічба такіх „адшчапенцаў" была невялікая: усяго, здаецца, двое ці трое. Але самы гэты факт найлепш выявіў праступнасьць руйнуючае „працы" палітычных павадыроў хадэцыі. „Сьляпыя павадыры" хочуць і новыя пакаленьні беларускае інтэлігенцыі зрабіць такімі-ж сьляпымі, як яны самі, хочуць сярод моладзі шырыць той самы маральны бруд і расклад, які шыраць сярод старэйшага грамадзянства.

Ці-ж пры такіх варунках новая зьмена можа выпаўніць вызначаную ей жыцьцём ролю? Ясна, што не. Ясна, што яна будзе яшчэ менш здольная да самаабароны і адпору на ўсякія варожыя ўдары, чым разьедзеная палітыканствам і ўнутранай грызьнёй старэйшае грамадзянства. І вось, у мамэнт, калі новы выпуск матурыстаў пакідае муры беларускіх гімназіяў, мы зварачаемся да гэтых нашых наступнікаў з гарачым заклікам:

Не паддавайцеся правакацыі з боку „сьляпых павадыроў"! Памятайце, што *ўсіх вас — сыноў працоўнага народу — злучае супольнае заданьне: сплаціць доўг гэтаму народу, з поту й крыві якога вы ўзрасьлі*! Памятайце, што наагул у тых варунках, у якіх мы жывём, *больш вас лучыць у вадну сям'ю, чым вас дзеліць*. І дружнай, ахвярнай творчай працай *адбудоўвайце еднасьць і моц грамадзянства*, пазбаўленага сяньня блізу ўсякае магчымасьці самаабароны!

Гэта — першы варунак выпаўненьня вамі вашага жыцьцёвага заданьня.

# Да ўсяго Беларускага Грамадзянства.

## Адкрытае пісьмо

### Бацькоўскага Камітэту Віленскае Беларускае Гімназіі.

Прыступаючы да арганізацыі новага 1932-33 школьнага году ў Віленскай Беларускай Гімназіі, Бацькоўскі Комітэт стануў перад надзвычайна труднай задачай: выбарамі дырэктара гімназіі. Кандыдаты, да каторых зьвярнуўся К-тэт, не знаходзяць для сябе магчымым заняць гэтае труднае і адказнае становішча ў тых варунках, якія вытварыліся з прычыны партыйнага падзелу і нячуванай ў сваіх формах унутранае барацьбы сярод беларускага грамадзянства. Паасобныя партыйныя групы, як быццам ня бачучы перад сабой ніякіх іншых мэтаў і заданьняў, апрача барацьбы з праціўнікамі, аказаліся нячздольнымі ўстрымацца ад крокаў і выступленьняў, якія баллюча білі і б'юць нават па агульна-нацыянальных культурных установах, прадстаўляючых нашыя супольныя цэннасьці, роўна дарагія ўсім беларусам. Шмат дасталася ад гэтае барацьбы і Віленскай Беларускай Гімназіі і яе кіраўнікам. Недапушчальныя па сваёй форме напасьці на асобы, кіруючыя жыцьцём гімназіі, і ўцягваньне ў гэтую барацьбу вучнёўскае моладзі ў першую чаргу абніжалі аўтарытэт Пэдагогічнае Рады ў вачох вучняў і падрывалі школьную дысцыпліну, дыскрэдытуючы адначасна кіраўніцтва гімназіі і ў вачох грамадзянства і ў вачох Школьнае Улады. Спробы аб'яднаньня грамадзянства для супрацоўніцтва на грунце Бацькоўскага Камітэту, нажаль, не дасягалі сваей мэты, што пазбаўляла і самы Бацькоўскі Камітэт неабходнага аўтарытэту.

На агульным сходзе сяброў Бацькоўскага Камітэту, 27 траўня 1932 г., перад пагрозай самастойнаму існаваньню Віленскай Беларускай Гімназіі, у згодным выступленьні ў абароне гімназіі, здавалася, зышліся-такі ўсе, хто так ці інакш зьвязаны з жыцьцём гімназіі. Гэта будзіла агульную надзею на тое, што перад аблічам паважнае небясьпекі грамадзянства нашае ўрэшце адумалася і знайшло супольную дарогу. Нажаль, на дзеле гэтага яшчэ ня сталася. Працяжная барацьба каля нашае гімназіі, ад якой церпіць якраз апошняя, ня спынілася. Пры такіх варунках кожнаму кандыдату, які заняў-бы становішча дырэктара гімназіі, ізноў пагражаюць удары, паніжаючыя аутарытэт і дырэктара, і пэдагогічнае рады ў вачох вучняў, затрудняючы кіраўніцтву гімназіі барацьбу з усімі дэмаралізуючымі ўплывамі на вучняў звонку і гэтак падрываючы падставы нармальнага школьнага жыцьця.

Высьвятляючы перад грамадзянствам усю трагічнасьць вытваранага палажэньня і сьцьвярджаючы такія адносіны да ўспомненых формаў барацьбы на грунце школы і пратэстуючы супроць гэтае шкадлівае акцыі паасобных групаў палітычных, Бацькоўскі Камітэт зварачаецца да ўсіх сьведамых беларусаў з гарачым заклікам — прыйсьці яму на помач у ратаваньні гімназіі і зрабіць магчымай нармальную працу ў гімназіі, маючы наўвеце выключна дабро і найдаражэйшую агульна-нацыянальную цэннасьць, якой для кожнага народу ёсьць яго родная школа.

Адначасна Камітэт паведамляе, што ён зьвярнуўся да былага Дырэктара нашае гімназіі грам-на **Радаслава Астроўскага** з просьбай не адмовіцца прыняць ізноў на сябе ў гэтую трудную мінуту кіраўніцтва ня менш дарагой і для яго самога нашае гімназіі, не зварачаючы ўвагі на прыкрую і часамі жорсткую

бы боку яна ня прыходзіла, і прыракаючы яму пры гэтым усё сваё падтрыманьне ў працы дзеля нашае гімназіі.

Прэзыдыум Бацькоўскага К-ту
Віленскай Беларускай Гімназіі,
(—) Адв рды Будзька.
(—) Сымон Кароль.
(—) Аўгень Стракоўскі.
(—) Язэп Пратасэвіч.
(—) Міхалай Сіняўскі.

---

Адначасна з апублікаваньнем гэтае адозвы, Прэзыдыум Бацькоўскага К-ту паслаў грам. Р. Астроўскаму пісьмо наступнага зьместу:

„На паседжаньні 12 гэтага чэрвеня Прэзыдыум Бацькоўскага К-ту аднагалосна пастанавіў — прасіць Вас, паважаны грамадзянін, прыняць на 1932-33 шк. год становішча Дырэктара Віленскай Беларускай Гімназіі.

„Запрашаючы Вас на дырэктара ў цяперашні трудны для гімназіі час, мы маем на ўвазе Вашыя пэдагогічныя і адміністрацыйныя здольнасьці і цьвёрда верым, што Вы зможаце выратаваць гімназію з яе цяперашняга труднага палажэньня".

Падпісаны:
Старшыня Адварды Будзька.
С. Кароль.
Е. Стракоўскі.
М. Сіняўскі.
Сэкратар Я. Пратасэвіч.

На нашае запытаньне, гр. Астроўскі заявіў, што ён вельмі сумляваецца, каб у выніку адозвы Бацькоўскага Камітэту спынілася дасюлешняя зьвяга на яго з боку варожых палітычных груп, якая праз ягоную галаву біла-бы далей па гімназіі. Гэта прымушае яго ўстрымацца ад дачы згоды заняць становішча дырэктара ВБГ.

Характэрна ўсё-ж такі, што Прэзыдыум Бацькоўскага Камітэту ўжо пасьля „перамогі" Хадэцыі на агульным сходзе бацькоў — зьвярнуўся ізноў да таго самага гр. Астроўскага, проці якога Хадэцыя вяла і далей вядзе такую агідную акцыю...

# Каму патрэбна падмога?

„Instytut Rolny" (Сельска-Гаспадарчы Інстытут) у Пулавах сцьвярджае, што ў Польшчы дзенны (сярэдні) заработак сябры сялянскае сям'і, які 7 гадоў назад быў роўны 2 зл. 70 гр., цяпер зьнізіўся да нячуванае цыфры 12 гр. у дзень, — пад той час, як навет найтаньнейшы, найменш вымагаючы за сваю працу кітайскі работнік — „кулі" — зарабляе 70 грошы ў дзень.

Падаючы гэту жудасную цыфру, рэдакцыя „Przegl. Wil." слушна заяўляе, што, калі гэтак дзеецца на этнографічна польскіх землях, дык у нас пэўне яшчэ горэй. А што робіцца дзеля падняцьця сялянскіх заробкаў?

Неяк аб гэтым нічога ня чуваць. За тое вельмі шмат чуваць аб ратаваньні „земяньства".

Але ратаваньне „земяньства" (папросту—абшарнікаў)—гэта страшэнна каштоўная для дзяржаўнага скарбу і няўдзячная забава. І навет частка польскае прэсы— найбольш нацыяналістычная (эндэцкая), якая заўсёды бараніла абшарнікаў, як адзіных прадстаўнікоў польскае культуры на беларускай зямлі,—і яна выступае проці гэтае акцыі ратаваньня „земяньства". Характэрную стацьцю зьмясьціла надовячы эндэцкая газэта „Głos Wilna" пэд гэтнім падвойным загалоўкам: „Ці варта прадаўжаць агонію? У людзе ляжыць моц Польшчы",—дзе сцьвярджае, што абшарніцтва аказалася зусім няздольным да жыцьця і ўжо канае, ды што жыцьцё яго штучна падтрымліваецца коштам усяго народу. Але гэтае падтрымліваньне — дарэмнае: абшарніцтва—гэта ўжо перажытак, яко выраДзілася і мусіць зьнікнуць з аблічча зямлі.

Наадварот, абшарніцкае „Słowo" ажно пеніцца, бароначы гэту засуджаную на сьмерць клясу, і трэбуе ўсьцяж усё новых і новых дапамог з дзяржаўнага скарбу на захаваньне (не ў зоолёгічных садох, а на волі!) выміраючае соцыяльнае пароды зубраў...

---

# Новая Улада у Нямеччыне.

### Як стварыўся новы ўрад.

Вялізарную сэнсацыю ў-ва ўсім палітычным сьвеце выклікала неспадзяваная зьмена ўраду ў Нямеччыне. Пры гэтым хіба-ж найбольшай неспадзянкай была яна, як аказваецца для... самога прэм'ера Брюнінга. Той самы Гіндэнбург, якога толькі-што выбралі ў страшэннай барацьбе проці кандыдатаў гітлераўцаў і нацыяналістаў усе цэнтравыя і левыя партыі, не выключаючы і соцыял-дэмакратыі, аб'яднаныя пад кіраўніцтвам Брюнінга, — ўраз-жа пасьля свайго выбару — зваліў урад гэтага свайго абаронцы Брюнінга і аддаў уладу фактычна ў рукі сваіх ворагаў у часе выбарнай кампаніі — правіцы.

На чале новага ўраду стаіць нібы сябра Брюнінга па нямецкай хадэцкай партыі („каталіцкі цэнтр") фон-Паппэн. Але першым крокам гэтага „сябры партыі" па атрыманьні назначэньня прэм'ерам быў выхад з партыі.

### Характар новага ўраду.

Новы ўрад складаецца пераважна з буйнейшых земляўласьнікаў Усходняе Прусіі дый прадстаўнікоў буйнага прамысловага капіталу. Таму ён атрымаў адразу трафны назоў „габінэту баронаў".

Але яшчэ больш характэрна тое, што за гэтым урадам стаяць буйна-ўласьніцкія клясы, якія паволі, ня гледзячы на „дэмакратычны кантроль" з боку цэнтру і лявіцы, здолелі апанаваць блізу цалком вышэйшую ўладу ў арміі. Такім чынам новы нямецкі ўрад ёсьць ня толькі „ўрадам баронаў" — аграрыяў і каралёў прамысловасьці, але і — „урадам генаралаў". Фактычным дыктатарам у Нямеччыне стаўся генарал Шлейхэр, галава нямецкай ваеннай камарыльлі, тэй самай, якая — праз галаву кайзэра Вільгэльма II-га — непадзельна і самаўладна кіравала нямецкай імпэрыяй, пакуль ня кінула яе ў вагнявую прорву вайны.

Ня дзіва, што такі факт страшэнна ўсхваляваў сусьветную апінію. Ня менш характэрна, дый хіба-ж зразумела, што некаторыя сябры ўраду адкрыта гавораць аб адбудове манархіі ў Нямеччыне...

### Аб'яднаньне сярод апазіцыі.

Новы ўрад адразу аб'яднаў проці сябе ўсе бяз вынятку нямецкія партыі, апрача нацыяналістаў і гітлераўцаў.

Цікаўна, што найвастрэй выступіла якраз уласная партыя новага прэм'ера, з якой ён пасьпяшыў выйсьці: нямецкая хадэцыя. У сваім камунікаце „Каталіцкі Цэнтр" вельмі празрыста бэсьціць „лёгкамысныя інтрыгі безадказных асобаў", якія ў такі адказны мамэнт „збурылі ўсю працу папярэдніх урадаў" і папсавалі іх „палітыку адбудовы Нямеччыны", кідаючы народ і краіну ў „прорву палітычных экспэрымэнтаў". Камунікат партыі Брюнінга выразна б'е і па Гіндэнбургу, зразумела-ж не называючы яго па імені.

Адзін з правадыроў соцыял-дэмакратыі ... Гітлер выразна пхае Нямеччыну на паварот да даваеннага самаўладзтва, якое, як ведама, выкапала магілу нямецкаму народу. Але нямецкі народ нядоўга будзе стаяць спакойна, пакуль яму выкапаюць новую магілу... Пасьля цішыні наступіць бура, і расправа з магільшчыкамі будзе вельмі цяжкая"...

### Першыя крокі.

Але пакуль-што новы яўна фашыстаўскі і манархістычны ўрад, створаны і падтрымліваны Гіндэнбургам, на легальнай падставе, карыстаецца сваёй законнай уладай ў-ва ўсю. Першым крокам новага ўраду было скасаваньне забароны існаваньня гітлераўскіх „штурмавых калёнаў" ці баёвак; другім, яшчэ больш важным — роспуск парляманту і назначэньне новых выбараў, якія будзе рабіць новы „ўрад баронаў і генаралаў", карыстаючыся талентамі, практыкай і баёўкамі Гітлера. Характэрна, што ўрад Паппэна ня меў адвагі выступіць перад старым парлямантам, ведаючы добра, што ня знойдзе ў ім большасьці.

### Адносіны заграніцы.

За-граніцай „урад ген. Шлейхэра" спатканы якнайгорш.

Трэба ўспомніць, што якраз у панядзелак пачалася так зв. Лёзанская конфэрэнцыя, якая мае першым чынам пераглядаць ізноў справу нямецкіх адшкадаваньняў. Ужо Брюнінг заяўляў неаднойчы, што Нямеччына плаціць адшкадаваньняў ня можа і ня будзе. Але і ў Францыі, як і ў Англіі думалі, што гэтыя заявы маюць больш на мэце ўнутраны эфэкт—з пагляду на акцыю Гітлера, дый што ў Лёзаньне Брюнінг пойдзе на ведамы кампраміс—пад націскам іншых дзяржаў. Цяпер ад імя Нямеччыны будзе гутарыць з дзяржавамі ф.-Паппэн, паўнамоцнік нямецкіх генаралаў і гітлераўцаў, якія скасаваньне адшкадаваньняў ставілі першым пунктам сваёй выбарнай плятформы.

### Хто такі ф.-Паппэн?

Трэба—для завяршэньня абраза—дадаць, хто такі фон-Паппэн, які будзе асабіста гутарыць з прэм'ерамі б. антанцкіх дзяржаў у Лёзаньне.

Не разводзячы доўга, скажам, што цяпер усе газэты напоўнены цікавымі падробнасьцямі аб тым, як цяперашні прэм'ер Нямеччыны „працаваў" у часе вайны, будучы прадстаўніком Нямеччыны ў Злуч. Штатах Амэрыкі, арганізуючы там выкраданьне ваенных сэкрэтаў на фабрыках, выпаўняўшых заказы Антанты, дый разьвіваючы ўсялякую іншую падобную шпіёнска-падрыўную дзейнасьць, пакуль ня быў афіцыяльна выселены з Амэрыкі яе ўрадам...

Трэба-ж запраўды мець задзіўляючую „адвагу" ды „даваенную пэўнасьць" у сваёй сіле, каб рызыкнуць такую асобу паставіць цяпер на чале ўраду ды пасдаць яе гутарыць з б. Антантай у справе адшкадаваньняў!...

### Манархісты падымаюць галаву.

У заключэньне — пара фактаў, ілюструючых эволюцыю Нямеччыны — на шляху павароту да манархіі.

Зараз-жа пасьля перамогі Гітлера, поруч з якім у выбарнай кампаніі адкрыта выступіў сам былы кронпрынц (наступнік трону), пачалася цікаўная полеміка.

Дэмакратычная прэса, абураная выступленьнем кронпрынца, напомніла яму, што Штрэзэман калісьці згадзіўся дазволіць яму жыць у Нямеччыне толькі пасьля таго, як ён даў чэснае слова, што будзе ўстрымлівацца ад усялякай палітычнай дзейнасьці. Усё гэта, як ведама, запратаколена было ў сваім часе Штрэзэманам. Цяпер кронпрынц каротка адказаў, што гэта— хлусьня нябожчыка Штрэзэмана... А Гітлер дадае, што пасьля нядоўгавечнага Гіндэнбурга прэзыдэнтам можа быць толькі кронпрынц, калі... адразу ня зробіцца кайзэрам...

Яшчэ цікаўней апошняя адозва, ці „маніфэст"... самога б. кайзэра Вільгэльма— да матросаў нямецкага ваеннага флёту. Маніфэст былага кайзэра трэбуе ня больш—ня менш, як звароту яму, Вільгэльму II, (а не яго сыну навет!) усіх правоў нямецкага імпэратара... Як ведама, былы кайзэр адрокся ад трону толькі за сябе, але не за ўсю дынастыю, і таму ўрад Галяндыі згадзіўся прытуліць яго, ня выдаўшы яго саюзьнікам. Вернасьць старога жаўнера—прэзыдэнта Гіндэнбурга ды новы, створаны ім „урад баронаў і генаралаў" — як бачым, дадалі шмат духу быламу кайзэру. Недабітыя супрацоўнікі —магільшчыкі Нямеччыны ўскрэсьлі на нашых вачох...



Бацькі!

Навучайце дзяцей вашых чытаць і пісаць пабеларуску!

# Адпружаньне на Далёкім Усходзе?

Вялізарнае ўражаньне зрабіла праграмная прамова ў японскім парляманьце прэм'ера новага японскага ўраду графа Саіто, з якой можна заключыць, што небясьпека вайны між Японіяй і СССР, прынамся ў бліжэйшым часе, мінула. Прэм. Саіто заявіў, што Японія будзе надалей шанаваць усе правы і інтарэсы СССР у Манчжурыі; што акцыя японцаў у Манчжурыі мае мэтай выключна абарону жыцьця і маемасьці японскіх грамадзян, дзеля чаго першай задачай зьяўляецца ачыстка краю ад бандаў былых жаўнераў (рабуючых ды забіваючых у ім асабліва японцаў). Калі ніхто ня будзе перашкаджаць Японіі ў яе мірнай (?) культурна-гаспадарчай працы ў Манчжурыі, дык японскі ўрад наперад гарантуе, што мір будзе захаваны. Прэм. Саіто выказаў перакананьне, што маскоўскі ўрад прызнае слушнасьць такой пазыцыі Японіі. А таму — дарэмна пускаюцца чуткі аб магчымасьці вайны між Японіяй і СССР.

Так кажа японскі прэм'ер, урад якога лічыцца экспозытурай ваенных колаў Японіі, якія скінулі папярэдні ўрад за яго залішне павольную, дыплёматычную палітыку адносна да Кітаю. Відаць, і Японія ня хоча iсьці на рызыку вайны, якая, калі-б і дала канцавую перамогу Японіі, напэўна-б зацягнулася, пагражаючы фінансавым банкруцтвам Японіі.

Але, з другога боку, таксама ня хоча вайны і радавы ўрад, які рызыкуе тутака ў першую чаргу сваім існаваньнем. Таму трэба думаць, што за мір на Далёкім Усходзе заплаціць Японіі ня толькі Кітай, але і СССР, які змушаны будзе згадзіцца на „вольную руку“ Японіі ў Манчжурыі...

— —

Загранічная прэса піша, быццам на ваенныя колы Японіі „міратворча“ падзеялі ня толькі значныя сілы, сабраныя радавым урадам на Манчжурскай граніцы, але і тыя выпадкі тэрору і сабатажу, якія пачаліся ў Японіі на фабрыках амуніцыі дый па-за межамі Японіі—у тых дзяржавах, якія выконваюць ваенныя заказы для Японіі.

Вось толькі-што бэльгійская прэса апублікавала цыркуляр Комінтэрну да ўсіх яго сэкцыяў, у якім камуністычная цэнтраля загадвае безадкладна падрыхтавацца да тэрорыстычна-сабатажнай акцыі —на ўсіх фабрыках, якія пачнуць выракляць ваенныя матэр'ялы для Японіі, а таксама на ўсіх транспортных лініях, на якіх будуць перавозіцца гэтыя матэр'ялы ў Японію.

Што савецкі цыркуляр не жартуе, відаць з апошняй ахвяры Комінтэрну — найлепшага параходу Францыі, які спалены быў нядаўна на паваротным шляху з Японіі —пэўне-ж нейкім агентам Комінтэрну...

# Жыцьцё Польшчы.

### Зьезд ваяводаў у Варшаве.

9 і 10 чэрвеня ў Варшаве адбыўся зьезд ваяводаў. Першы дзень нарады датычылі гаспадарчых спраў; другі дзень быў ахвяраваны справам адміністрацыйным, палітычным і меншасьцёвым.

### Новы закон аб сабраньнях.

Ад 8 чэрвеня с.г. увайшоў у сілу новы закон аб сабраньнях (Закон 11 сакавіка 1923 г.). Закон адрозьнівае сабраньні публічныя, якія адбываюцца пад адкрытым небам ці ў памешканьнях, ад збораў няпублічных.

Вулічныя маніфэстацыі, паходы, хаця-б на вазох ці на аўтамабілях, разглядаюцца, як публічныя сабраньні.

Паведамленьне і паданьне аб дазвол на публічнае сабраньне павінна зьмяшчаць імя, прозьвішча і адрас склікаючага; дакладнае паказаньне месца і часу сабраньня, яго мэты і праграму, а таксама мовы вядзеньня нарадаў, калі сабраньне мае адбывацца ў мове недзяржаўнай (няпольскай).

Сабраньне няпублічнае, ці зачыненае, не вымагае ніякіх дазволаў, але можа адбывацца толькі ў прысутнасьці сяброў саюзу ці таварыства — у рамах, прадбачаных іх статутамі. За нарушэньне правілаў аб сабраньнях закон прадбачыць даволі цяжкія кары: штрафы і арышт.

# З усяго сьвету.

### „Саюз Нямеччыны, Францыі і Польшчы — проці СССР“ (?)

У зьвязку з зьменай ураду ў Нямеччыне — адна з францускіх газэт, якая зьяўляецца органам урадавай партыі радыкалаў, пусьціла сэнсацыйную вестку аб рыхтаваным быццам саюзе Францыі, Нямеччыны і Польшчы, які быў бы скіраваны проці СССР.

Хаця ў гэтай вестцы хіба-ж больш сэнсацыі, як праўды, аднак савецкая прэса страшэнна ўсхвалявана новым нямецкім урадам, спадзяючыся ад яго навет разрыву савецка-нямецкага саюзу. З свайго боку маскоўская камун. цэнтраля загадала нямецкім камуністам рашуча кінуць тасаваную імі дагэтуль тактыку падтрымліваньня гітлераўцаў проці соцыял-дэмакратаў і разам з усей апазыцыяй выступіць адзіным фронтам проці захапляючага ўжо ўладу нямецкага фашызму.

### Новы ўрад Эрыо ў Францыі.

У выніку поўнай перамогі радыкальнай лявіцы на апошніх выбарах—у Францыі стварыўся чыста радыкальны габінэт з ведамым правадыром „радыкал-соцыялістаў“ (буржуазных) Эрыо. У склад ураду ўвайшоў рад шырока ведамых палітыкаў Францыі, як Пэнлевэ, Поль Бонкур, Лейг, і інш. Ня гледзячы на яўна правакацыйны склад ураду ў Нямеччыне, новы францускі ўрад мае выразна пацыфістычны характар і спакойны настрой. Таму — надзвычайна цікаўна, як спаткаюцца прадстаўнікі такіх процілежных па свайму палітычнаму характару ўрадаў на канфэрэнцыі ў Лёзаньне.

### Англійскія міністры ў Парыжу.

Едучы на Лёзанскую канфэрэнцыю, англійскія міністры: прэм. Мак-Дональд і мін. замежн. спраў Саймон—спыніліся, на запрошаньне францускага ўраду, у Парыжу, каб асабіста абгаварыць праграмныя пытаньні канфэрэнцыі. Аб плянах англійскага і францускага ўрадаў на канфэрэнцыі ў прэсе зьяўляюцца толькі дагадкі. Нічога напэўна ніхто ня ведае. Ведама толькі, што пляны Мак-Дональда адносна адшкадаваньняў і амэрыканскіх даўгоў—значна больш радыкальныя, як францускія.

Мак-Дональд хоча цалком зьліквідаваць усю справу адшкадаваньняў — дзеля яе безнадзейнасьці. Францускі ўрад хоча яшчэ паспорыць, ці ня ўдасцца, зрабіўшы вялізарныя ўступкі Нямеччыне, нешта вытаргаваць для Францыі.

### Спор паміж Ірляндыяй і Англіяй.

Спор паміж Англіяй і незалежніцкім урадам Ірляндыі, каторы пастанавіў скасаваць прысягу на вернасьць каралю Брытанскай Імпэрыі і парваць апошнюю сувязь з ненавістнай Англіяй, аказаўся ня так лёгкім да вырашэньня, як сабе гэта ўяўляў ірляндзкі прэм'ер дэ-Валера. Пасьля рашучага пратэсту з боку англійскага ўраду, пачалося хістаньне і сярод ірляндцаў. Ня гледзячы на становішча большасьці парляманту — за скасаваньне прысягі, у сэнаце, наадварот, большасьць пастанавіла пайсьці на гэты крок толькі шляхам паразуменьня з Англіяй. Дэ-Валера ўжо паехаў у Лёндан, але да паразуменьне з англійскімі міністрамі не дайшло.

Цяпер перад ірляндзкімі незалежнікамі — два шляхі: або, ня гледзячы на пратэсты Англіі і свайго сэнату, рваць дэманстрацыйна „крыўдную для нацыянальнай амбіцыі ірляндцаў залежнасьць ад Англіі“ (конституцыя дае права сойму, пачакаўшы год, паўторнай пастановай прыняць канчальна закон аб скасаваньні прысягі, ня гледзячы ўжо на апор з боку сэнату), або — адмовіцца ад дэманстрацыйнага дамаганьня крайніх незалежнікаў.

Можна думаць, што пры пэўным такце з боку англійскага ўраду — дэ-Валера можа на гэтым сваім праекце скруціць галаву свайму ўраду.



# ХРОНІКА.

**— Апошні „аргумэнт“ ашалелых палітыканаў.** Уначы з 16 на 17 чэрвеня „няведамыя“ людзі, увайшоўшы пры помачы падабранага ключа ў памяшчэньне Цэнтрасаюзу, дзе месьціцца рэдакцыя нашае газэты, учынілі тамака поўны разгром. Панішчаны партрэты беларускіх пісьменьнікаў — Коласа, Купалы і інш. З асаблівай ненавісьцяй „няведамыя“ аднесьліся да гадавікоў беларускіх часопісаў з часоў Грамады і да фатаграфіяў грамадаўскіх паслоў, якія ўсе парваны і патаптаны. Зьнішчана зусім бібліятэка, парваны ўсе кніжкі, а таксама і картачкі падпішчыкаў нашае газэты з падробнымі адрасамі. Матэрыяльныя страты вельмі значныя.

Падаючы да агульнага ведама гэту новую праяву зьдзічэньня ў нашым грамадзянстве (—бо-ж лёгка дагадацца, чыя гэта работа!), зварачаемся да ўсіх нашых падпішчыкаў і чытачоў з просьбай нанова прыслаць падробныя іх адрасы.

Дзеля таго, што гэты дзікі факт стаўся перад самым спускам гэтага нумару на машыну, абмежываемся сяньня падачай голае інфармацыі. Падробна абгаворым справу ў наступным нумары.

**— Вучыцельская сэмінарыя ім. Фр. Багушэвіча ўжо зьліквідавана.** Школьныя ўлады загадалі зьліквідаваць вучыцельскую сэмінарыю ім. Фр. Багушэвіча ў прысьпешаным парадку, не чакаючы на агульны тэрмін заканчэньня школьнага году. Ліквідацыя закончана 15 чэрвеня.

**— Пратэст студэнцкае моладзі.** Беларуская студэнцкая моладзь, узварушаная пагрозай існаваньню апошніх ужо прыватных беларускіх гімназіяў, манілася склікаць веча пратэсту. Аднак, веча не магло адбыцца з прычыны адмовы ў дазволе на яго.

**— Нашы матурысты.** Сёлета Віленскую Беларускую Гімназію скончыла 11 вучняў: Асаевічанка, Акінчыц, Бабок, Багдановічанка, Казлоўская, Кот, Коўшык, Падагель, Чартовіч, Шалешка і Хадзінскі. Экстэрнамі здалі матуру двое: К. Крук і Л. Стаўбунічанка. — У мінулую нядзелю на ўладжанай у Гімназіі гарбатцы моладзь вельмі сардэчна разьвітывалася з сваімі ўзгадавальнікамі.

У Наваградзкай Беларускай Гімназіі атрымалі матуру 6 вучняў.

**— Беларушчына ў Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі.** „Бел. Кр.“ ў аднэй стацьці жаліцца — і зусім слушна! — на тое, што гадунцом Прав. Дух. Сэмінарыі ў Вільні (а яны-ж у вялізарнай большасьці — беларусы) „не прышчапляецца любоў да беларускага народу, а наадварот“... Зусім справядліва. Але трэба сказаць, што гэтае „наадварот“ зьяўляецца ў вялікай меры вынікам „працы“ ведамага грамадзянству гр. Янкі Станкевіча, якога — замест гр. В. Грышкевіча — вызначыла на становішча вучыцеля беларускае мовы Куратарыум. Гр. Янка Станкевіч зусім апраўдаў ускладаныя на яго пэўнымі чыньнікамі надзеі: ён патрапіў гэтак з'агідзіць сэмінарыстам беларускую мову сваімі „дзівосамі і сьмяхотамі, што тыя масова пачалі запісывацца „расейцамі“, каб пазбыцца неабходнасьці „вучыцца“ у гр. Я. Станкевіча... Цікаўна і тое, што за часоў выкладаньня беларускае мовы ў сэмінарыі „забракаваным“ школьнымі ўладамі гр. Грышкевічам сэмінарысты ня толькі мовай і літэратурнай беларускай цікавіліся, але і беларушчынай наагул і неаднакротна ладзілі экскурсіі ў Беларускі Музэй. Сёлета — пры гр. Станкевічу — ня было ніводнае гэткае экскурсіі ў Музэй, які зьмяшчаецца ў тым самым падворку, дзе і сэмінарыя...

**— „Аб спосабах зьбіраньня этнаграфічных матэрыялаў“.** У нядзелю, 19 чэрвеня, у 5 гадз. папаўдні ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі адбудзецца цікаўная лекцыя грам. М. Пецюкевіча на тэму: „Аб спосабах зьбірань-

ня этнаграфічных матэрыялаў". Лекцыя гэта мае на мэце даць слухачом інструкцыю, як трэба зьбіраць прадметы народнае вытворчасьці, маючыя значэньне дзеля навуковых досьледаў у галіне этнаграфіі. Пажадана, каб на лекцыю сабралася чым больш нашае школьнае моладзі, якая хутка разьяжджаецца па вёсках і ў працягу лета можа шмат чаго цікавага сабраць для беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча, дзе ўсё будзе распрацоўвацца навукова.

## Папулярызацыя беларускае песьні.

Пад той час, як грамадзянства нашае — у выніку агіднае „працы" розных правакатараў гэтак разьбіта й расьцярушана, што ня ў сілах павясьці хоць якую супольную, агульнанацыянальную акцыю, — жывейшыя адзінкі прымушаны саматугам праводзіць уласную ініцыятыву. Такую добрую, карысную ініцыятыву выявіў ведамы беларускі працаўнік на ніве зьбіраньня і распрацоўкі народных музыкальных твораў, грам. Шырма. Яго працай, яго высілкам стварыўся пры Бел. Студ. Саюзе (які, к слову сказаць, апаганены агентамі кс. Станкевіча і ніякае пазытыўнае працы сёлета не рабіў!) — хор (мяшаны), — і вось гэты хор ужо двойчы выступіў публічна, стараючыся перад шырэйшымі масамі паказаць хараство беларускае песьні.

Першае выступленьне адбылася 4-га чэрвеня ў салі Гандлёва-Прамысловага Клюбу, выбранай вельмі нешчасьліва: акустычныя варункі ў ёй гэткія благія, што песьні, якія ліліся з эстрады, ня зьвінелі вольна й шырака, а выходзілі нейкія прыглушаныя. А тым часам праграма была вельмі багатая. Публіка была шчыра захоплена нашымі народнымі песьнямі, найбольш характэрнымі з якіх былі: вельмі багатая з музыкальнага боку сюіта, а з паасобных песьняў — „Перапёлачка" і інш. Цікаўныя былі і арыгінальныя кампазыцыі віленскіх аўтараў — гр. гр. Галкоўскага і Багдановіча.

Характэрна, што на гэты канцэрт сабралася выключна беларуская публіка. „Чужынцаў" (апрача прадстаўнікоў прэсы) блізу зусім ня было... А ўсё-ж ініцыятар папулярызацыі беларускае песьні не апусьціў рук і не пакінуў сваей думкі зацікавіць нашай музыкальнай творчасьцяй і грамадзянства чужых народаў. З гэтай мэтай і быў наладжаны другі канцэрт — ужо ня ў салі, а на адкрытай эстрадзе ў Бэрнардынскім садзе, які і адбыўся ў сераду, 15 чэрвеня.

Гаворачы аб выкананьні абодвух канцэртаў хорам (выступала удатна і салістка — гр. Сасноўская, даўно ведамая беларускаму грамадзянству), трэба шчыра сказаць, што іменна хору яшчэ шмат чаго не хапае, хаця і так шмат зрабіў з ім гр. Шырма за кароткі час. Сьпевак было мала, учасьнікі не маглі акуратна бываць на сьпеўках. І вось гэта прымушае павежна задумацца над тым, каб супольнымі сіламі ўсяго грамадзянства зьдзейсьніць паўней ідэю гр. Шырмы і наладзіць сталы агульна-беларускі рэпрэзэнтацыйны хор у Вільні — з асоб, якія-б маглі больш часу аддаваць гэтай справе, ды каб гэты хор мог рабіць выезды і ў другія мейсцы, як заўсёды рабілі і робяць ведамыя і так папулярныя украінскія хоры. Зааxвоціла-б гэта мо' і нашу вёску да арганізацыі харавых гуртоў і працы над роднай песьняй.

## Нарэшце!

З глыбокім задзіўленьнем прачыталі мы ў „Белар. Крыніцы" з 10-га чэрвеня гэткія радкі — у выпісцы з пратаколу пасэджаньня Цэнтральнага Камітэту Беларускае Хрысьціянскае Дэмакратыі з 30-га траўня с. г.:

„...Прэзыдыум Ц. К. Б. Х. Д.... выяўляе сваю гатовасьць да змаганьня чэснага, адкрытага і адкідае ўсякае крудельства, мэтай якога заўсёды было, ёсьць і будзе хаваньне праўды, замест шуканьня яе і выяўляньня".

Можам шчыра сказаць: нарэшце! Мы ў працягу цэлых гадоў заклікалі „Белар. Кр." і яе фактычнага кіраўніка ўзьвысьці іменна на гэткі шлях чэснага змаганьня—замест няўпыннае ілжы, баламучаньня чытачоў, прыпісываньня палітычным працаўнікам выдуманых рэдакцыяй „Бел. Кр.", ніколі нябылых паступкаў і імкненьняў. Але заўсёды нашы словы сустракаліся з новай ілжой на страніцах гэтае газэты, з грубай лаянкай і іншымі падобнымі „палемічнымі фарбамі". І вось толькі цяпер Цэнтральны Камітэт Беларускае Хадэцыі сам, відаць, зразумеў, які згубны ўплыў на грамадзянства аказвае нячэснае змаганьне, і — апублікаваў сваю рэзалюцыю, з якой мы зрабілі вымецку.

Шчыра пажадаем, каб благія навыкі, пасеяныя кс. Станкевічам у „Бел. Кр.", урэшце выявіліся і не дэмаралізавалі ў роўнай меры і чытачоў гэтае газэты, і працаўнікоў рэдакцыі. Асабліва з увагі на перажываны ўсімі беларусамі—бяз розьніцы кірунку і перакананьня — жудасны пэрыяд, павінны запраўды-ж аздаравіцца мэтады ўнутранага змаганьня паміж рознымі групамі беларускага грамадзянства, якія, на жаль, лішне часта звачаліся да інтэрвэнцыі жандарма, каб „унешкадлівіць" сваіх палітычных праціўнікаў. Наша група асабліва балюча ад гэтага пацярпела і сягоньня церпіць...

Каб-жа толькі рэзалюцыя Ц. К. хадэцыі не асталася пустым гукам — прыгожым жэстам!

У сваей рэзолюцыі Прэзыдыум Ц. К-ту хадэцыі, паміж іншым абвяшчае, што бярэ на сябе поўную адказнасьць за „Беларускую Крыніцу". Вось-жа цікаўна, што нумар „Бел Кр.", у якім зьмешчана рэзалюцыя Ц. К-ту з выражэньнем гатоўнасьці весьці чэснае змаганьне і не рабіць крудельства, па-старому перапоўнены і агіднай ілжой, і бясчэснымі інсынуацыямі, і вачавідным крудельствам.

## Корэспондэнцыі.

### Голас аднаго з маладых.

(М. Краснае, Маладэчанск. пав.).

У нашым мястэчку за часоў Грамады кіпела беларускае жыцьцё. Моладзь шчыра працавала на роднай ніве, ладзіліся й беларускія спэктаклі, працаваў беларускі кааперытыў. Цяпер усё гэтае заглохла. Моладзь бадзяецца бяз дзела, ходзіць на „танцулькі" у польскую „сьвятліцу" ды п'янствуе. Ніхто не адважыцца нешта пачаць. Не падаюць голасу і былыя вучаніцы Радашкоўскае Беларускае Гімназіі.

Я — лішне малады й непрактычны, ня ўмею нічога наладзіць. Дык звачаюся праз газэту з заклікам да ўсяе краснэнскае моладзі беларускае: прачнецеся і бярэцеся за беларускую працу! Мо' такі публічны зварот зробіць сваё і запраўды абудзіць заснуўшых.

В.





Рэдактар-выдавец: М. СІНЯЎСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22